Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 17—19 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош. |
|---|---|---|---|

№ 24 (49) | Вільня, 10-га лістапада 1934 г. | Год 2-гі.

## Як ня кінь, дык—клін, а ўсё голым на плечы.

Беларуская Каталіцкая „Хадэцыя“ у №№ 35 і 37 свае газэткі „Беларуская Крыніца“ падняла справу так званае рэорганізацыі свае „партыі“, інакш кажучы пераахварбоўкі свае вывескі.

Калі-б да гэткага вываду нашыя каталіцкія хадэкі дайшлі шляхам шчырае—ды чэснае самакрытыкі і дыскусыі над сваімі дасюлешнімі памылкамі, дык такое зьявішча заслугоўвала-б безумоўна на ўвагу. Але нажаль, вышэй успомненыя фактары ў імкненьні нашых „хадэкаў“ да „абнаўленьня“ якраз не адыгрываюць ніякай ролі, а выпушчаная „Беларускай Крыніцай“, „бомба“ мае зусім іншыя прычыны.

Артыкулы «Беларускай Крыніцы», «Час абнавіцца» і «На пераломе» сьведчаць толькі аб тым, што «хадэцкія дзеячы» хочуць пераапрануцца ў новую вопратку, якая патрэбна нашай «хадэцыі» дзеля таго, што старая вельмі-ж ужо забруджана і паказвацца ў ёй перад народам проста не выпадае. Пакуль уся дзеяльнасьць беларуска-каталіцкай хадэцыі абмяжоўвалася Вільняй, ці інакш кажучы выпусканьнем «Беларускай Крыніцы», дык не перашкаджалі ім ані назоў „хрысьціянская“, ані ярлычок – „дэмакратычная“, але з хвілінаю, калі задумалі выйсьці на шырэйшы сьвет, успомнілі і пра сваю забруджаную вопратку.

А паказацца перад народам, відаць, „хадэцыі“ захацелася на надыходзячых выбарах у Сойм і Сэнат. І хоць паны „Дэмосы“ і выступаюць для „краснага слаўца“ супроць парлямэнтарызму, аднак, відаць, у паслы гэтага збанкрутаванага парлямэнту прайсьці яны ахвотны. Дык вось дзе крыецца тая прычына, якая змусіла нашую каталіцкую бел-хадэцыю пачаць загадзя акцыю пераахварбоўкі свае вывескі.

Ці так спрытна скамбінаваная акцыя нашае „хадэцыі“ можа даць нейкія позытыўныя для яе рэзультаты?

Моцна ў гэтым сумляваемся! Наадварот, думаецца нам, што хадэцыі нягольki ня ўдасцца ў сучасны мамэнт абдурманіць беларускія масы, а нават страціць яна частку тых, якія дасюль яшчэ былі пад яе ўплывам.

Ні для каго хіба-ж не зьяўляецца сэкрэтам, што Беларуская Каталіцкая Хадэцыя са сваёю „Крыніцай“ на праваслаўныя беларускія масы абсолютна ніякага ўплыву ня мела і ня мае. Мы ведаем, што нашы каталіцкія клерыкалы ўвесь час імкнуцца і да пашырэньня сваіх уплываў на беларускі праваслаўны масы. Дзеля гэтага прабавалі яны хапацца за розныя штучкі: уцягвалі былога сэнатара В. Багдановіча ў свой Нацком. прабавалі тварыць на'т „праваслаўную“ сэкцыю, уцягнулі былі ў гэную сэкцыю гр. Сароку, прабавалі дагаварыцца з так званым праваслаўным Камітэтам гр. Т. Вярнікоўскага, фліртавалі і ўцягвалі ў сваю арбіту сьв. Каўша і г. д.

Аднак, як бачым, нічога з гэтага ня вышла. Павадыры беларускай каталіцкай хадэцыі якраз забываюць пра тое, што іх псыхіка і псыхіка праваслаўных беларусаў — гэта два дыямэтральна — процілежныя полюсы.

Вось дзе фактычна крыецца прычына таго, чаму Бел. Каталіцкая Хадэцыя ня мела і мець ня можа пасьпеху сярод праваслаўных. Трэба ўрэшце гэта зразумець і раз на заўсёды адмовіцца ад усялякае акцыі ў гэтым напрамку.

Справа вуніі, якую нашыя хадэкі моўчкі падтрымліваюць, таксама пакуль што зьяўляецца неперамажаннай перашкодай да ўплываў „хадэцыі“ сярод праваслаўных, бо-ж уперад трэба ім правесьці шырака вунійную акцыю сярод беларусаў каталікоў. Але на гэта нашыя хадэкі таксама ня пойдуць—бо-ж з аднаго боку мусіць каталіцкія беларускія масы спаткаюць іх варожа, а з другога боку не пазволіць ім на гэта і Рым.

Такія разважаньні насоўваюцца пры разглядзе пытаньня з боку рэлігійнага, а хадэцыя, як ведама, хоча выкінуць са свае вывескі на'т сам назоў „хрысьціянская“, дык паглядзім, якія чакаюць яе пэрспэктывы на грунце грамадзка-соцыяльным.

І тут панашаму трудна спадзявацца дадатніх рэзультатаў, бо-ж хіба ўсе памятаюць, як БХД, хочучы не адставаць ад Грамады, дамагаючыся перадачы ўсяе зямлі сялянам, казала, што ўсю зямлю нятолькі трэба адабраць ад паноў дарма, але паны яшчэ павінны заплаціць сялянству за бяспраўнае карыстаньне ў працягу сотні гадоў.

Як бачым з гэтага, радыкалізм нашых хадэкаў тэорэтычна перавышаў на'т камуністаў, звычайная, зразумела дэмагогія, якая патрэбна была Хадэцыі для барацьбы з Грамадою — спрытны *езуіцкі* ход!

Але не зважаючы на'т на гэта, беларускія масы за хадэкамі не пайшлі, бо-ж добра разумелі, што гэта толькі прыгожы ярлычок, за якім крыўся зусім іншы зьмест.

Як відаць з папярэдняга, сучасная акцыя пераахварбоўкі нятолькі ня дасьць хадэцыі спадзяваных рэзультатаў, а наадварот, паменшыць яе аўтарытэт у клерыкальна каталіцкіх масах.

Лепш бы зрабілі нашыя хадэкі, каб больш увагі зьвярнулі на акцыю нацыянальнага ўсьведамленьня беларусаў-каталікоў.

Ніякая пераахварбоўка ярлычкоў не паможа, — бо-ж зьмест нашай БХД заўсёды застанецца перадусім клерыкальна-каталіцкім. — „Як ня кінь, дык — клін, а ўсё голым на плечы!“

---

## Мар'ян Сьвехоўскі.

26 кастрычніка г. г. памёр у Коўні Мар'ян Сьвехоўскі. Сьв. пам. Мар'ян Сьвехоўскі належыў да тых рэдкіх людзей, для каторых покліч „за нашу і вашу вольнасьць“ ня быў пустой, прыгожай па форме, фразай, а глыбокай по свайму зьместу ідэяй.

Лепшая частка польскага грамадзянства страціла ў асобе памёршага адважнага і бязупыннага змагара за лепшую долю польскага народу, а ўсе прыгнечаныя і паняволеныя—свайго шляхотнага абаронцу. Слабы целам, але сільны і вялікі духам, быў сьв. пам. Мар'ян Сьвехоўскі жывым пратэстам супроць крыўды і паняволеньня.

Часы, каторыя перажываем, на кожным кроку, ў кожнай праяве грамадзкага і палітычнага жыцьця, пярэчылі тым вялікім ідэям, якія насіў у сваім сэрцы праз усё сваё жыцьцё сьв. п. Мар'ян Сьвехоўскі. Таму, можа, ён і быў у сваёй палітычнай працы найчасьцей — адзінокі.

Змагаючыся з пануючым нацыяналізмам і вельмі часта ня маючы зразуменьня сярод нацыянальна адраджаючыхся народаў—Мар'ян Сьвехоўскі не пераставаў верыць у лепшае заўтра нятолькі сваёй Бацькаўшчыны, якой быў верным сынам, але і тых народаў, лёс каторых гісторыя злучыла з Польшчай.

Праўдзівы прыяцель беларусаў, у найтрагічнейшыя для нас моманты, сьпяшыў заўсёды з дапамогай, уважаючы гэта за свой моральны абавязак. Беларускае грамадзянства з праўдзівым і шчырым жалем хіліць галовы над сьвежай магілай свайго шляхотнага прыяцеля — сьв. п. Мар'яна Сьвехоўскага.

---

## Палітыка расейскае эміграцыі.

У выніку бальшавіцкай рэвалюцыі дзесяткі тысяч расейцаў былі змушаны да эміграцыі за межы сваёй бацькаўшчыны. Даволі шмат расейцаў апынулася і ў межах Польшчы. Дзеля таго, што яны ніколі тут ня былі каріннымі жыхарамі, Польшча прыняла іх на правох эмігрантаў. Пад сьвежым уражаньнем крывавае бальшавіцкае расправы з „белымі“, расейскія эмігранты былі вельмі ўдзячны і за гэную форму польскае гасьціннасьці, тым больш, што значная іх частка пачала атрымліваць польскія эмэрытуры, ізноў іншая частка іх трапіла нават на ўрадовыя і самаўрадовыя пасады. Як ведаем, у расейскіх руках апынулася і Прав. Царква ў Польшчы. Спачатку гэныя госьці захоўваліся даволі прызваіта, ня лічачы некалькіх выпадкаў, калі права гасьціннасьці было надужыта нездаровым палітыканствам. Але вось, з бегам дзён, няпрошаныя госьці пачуліся на сілах і мы бачым ужо ў іх дзейнасьці наварот да „старинушки“. Перадусім, расейцы пачалі дзейна завіхацца каля царквы, стараючыся пры помачы яе зашчапіць вернікам ідэю „Вел. Единой Неделимой III Россіи“, топчучы пры гэтым натуральныя правы каріннога праваслаўнага насельніцтва ў Польшчы —беларусаў і ўкраінцаў. Пачынае разьвівацца расейская прэса, агрэсыўнасьць якой часта пераходзіць граніцы дазволенага. Закладаюцца расейскія гімназіі і пачатковыя школы, атмосфэра якіх ускрашае запурышкевічаўскі рэакцыянізм. Закладаюцца дзесяткамі розныя арганізацыі, настроі каторых зьяўляюцца далейшым разьвіцьцём настрояў „Союза Русскаго Народа“. Па добра распрацаванай праграме вядзецца дзейная работа над дэнацыяналізацыяй беларускае і ўкраінскае вёскі. Жадаючы здабыць для русыфкацыйнай акцыі праўныя падставы, расейцы на сваіх зьездах і ў прэсе штораз мацней дамагаюцца ад Ураду прызнаньня іх за нацыянальную меншасьць. Каб-жа ўся гэная работа не палохала гаспадароў, опортуністычна выкарыстоўваюцца намёткі „беззастенчивой“ лёяльнасьці і проурадовасьці, вельмі лёгка маніфэстуюцца „чувства верноподданничества“.

Аднак сапраўдны сэнс усяе гэнае работы для ўсіх відавочны, а і самі расейцы не заўсёды могуць яго належна прыкрыць. Шмат цікавага сказаў мінулагодні юбілей мітрапаліта Дзяніса, яшчэ больш цікавым і вельмі павучальным зьяўляецца таксама і апошні, калі гэтак можна сказаць, скандальчык п. Шуміліна.

У канцы мінулага месяца ў гутарцы з корэспондэнтам „Expressu Porannego“ старшыня РОМ-у (Расейская Арганізацыя Моладзі) інж. Д. Шумілін заявіў, што расейская моладзь імкнецца „стварыць лёяльную меншасьць... упорна прапагуем работу для польскай дзяржаўнасьці. — Маем супольнага (з палякамі, прып. „Р. Кр.“) ворага, распашыральніка згубнага сэпаратызму—Украінца. Будзем-жа шчырымі! У згодным супрацоўніцтве з Польшчай бачымо інтэрэс і нашай Бацькаўшчыны...“

Вельмі шчырае прызнаньне, але яшчэ больш вартасны яго недаказ. Гэтак, з аднаго боку маем гутарку аб лёяльнасьці і нацыянальнай меншасьці, з другога

боку—даволі цынічную прапазыку: ні для Польшчы, ні для „неделимой России“ украінцы, а ясна, гэтак-жа сама і беларусы, зусім непатрэбны, згодна пачнем іх ліквідаваць і гэта можа стацца плятформай для сяньняшняга польска-расейскага „сотрудничества“. Лёгічны недаказ — гэткай плятформай ня можа быць адмова расейцаў ад вяліка-маскоўскае імпэрыялістычнае палітыкі „III России“, бо хто-ж сам сабе вяжа рукі. Сяньня з помачай палякоў зьліквідуем беларусаў і украінцаў, а там прыдзе „III Россія“, а тады... можна будзе прыступіць і да ліквідацыі сяньняшняга „сотрудника“.

Нас гэныя прызнаньне і недаказ асабліва ня зьдзівілі. Для палякаў былі яны яшчэ аднэй прыкрай неспадзеўкай. З гэтае прычыны ў блізкім да польскага ўраду „Kurjerze Porannym“ (№ 294) было зьмешчана (курсывам) поўнае абурэньня асьведчаньне, дзе між іншым чытаем: „п. Шумілін сваім выступленьнем умацоўвае нас у перакананьні, што слова „маскаль“ да сёньняшняга дня мае поўны выраз свайго значаньня і відаць яшчэ зарана, каб яго вывадзіць з нашага слоўніка... п. Шумілін выступае ў так нячуваны спосаб супроць украінцаў, сугаспадароў (współgospodarzy) дзяржавы, якая яго бацьком і яму гасьцінна дала азыль... мусім супроць гэткіх выступленьняў... запратэставаць і то ў спосаб як найбольш катэгарычны“.

На старонках „Роднага Краю“ ў свой час была ўжо выказана думка, што беларусы, палякі і ўкраінцы зьяўляюцца народамі, якія маюць і будуць мець у будучыні супольныя гістарычна-палітычныя заданьні, а гэта з увагі перадусім на сваё географічнае палажэньне і гістарычна-культурнае вобліччa. Сэзонныя „сотрудники“ з Усходу і Захаду заўсёды будуць для нас ваўкамі ў авечай скурцы. Выступленьне п. Шуміліна якраз-жа і ёсьць звычайным воўчым ляскам зубоў, які павінен шмат каго навесьці на глыбокае прадуманьне справы сучаснага палажэньня ў Польшчы „współgospodarzy“ — беларусаў і „gości“ — расейцаў. Мы глыбака перакананы, што дзесяткі беларускіх школаў сяньня толькі зьблізілі-бы народы беларускі і польскі, у той час, як сяньняшнія дзесяткі школаў расейскіх апрача воўчага ляску зубамі, здаецца, прынясуць яшчэ больш прыкрыя неспадзеўкі.

*Эс.*

# Важнае пачынаньне.

Сягоньня мы зьмяшчаем пісьмо ў рэдакцыю вядомага беларускага драматурга і акцёра Францішка Аляхновіча, які, ачухаўшыся ад перажытых ім на Салавецкіх астравох мукаў, узнаўляе сваю дасюль яшчэ незрэалізованую думку, стварыць беларускі тэатр сіламі самога беларускага грамадзянства, ахвярнасьцю маладых людзей, якія чуюць у сабе пэўнае пакліканьне і здольнасьці працаваць на беларускай сцэне.

Гэткае важнае пачынаньне чалавека, які няраз ужо прабаваў паставіць на ногі справу беларускага тэатру, які ачараваўшыся магчымасьцю знайсьці шырокае сцэнічнае поле для сябе на Усходзе, дзеля гэтага-ж толькі і паехаў у Менск у 1927-м годзе, павінна быць падтрымана ўсімі жывымі сіламі нашага народу, а ў першую чаргу студэнцкаю моладзьдзю, якая прабывае ў зімовы час у Вільні, ды таксама і тымі маладымі людзьмі, якія ўжо пакончалі сярэднюю або і вышэйшую навуку, але ня маюць поўнага прылажэньня сваіх сілаў у цяперашні час безрабоцьця.

Трудны шлях стварэньня беларускае сцэны ў крызысны час! Але нішто не даецца без адважнае ініцыятывы, без рашучага пачынаньня. Калі ў маладых беларускіх сэрцах загарыцца энтузіязм, калі прабудзіцца жаданьне тэатральнай творчасьці, дык беларускі тэатр ажыве. А энтузіязм да гэткае палючае справы ў нашым убогім культурным жыцьці мусіць праявіцца, бо аб важнасьц свайго нацыянальнага тэатру ня можа быць ніякіх спрэчак ні ў беларускіх народных масах, ні сярод расьцярушанага беларускага грамадзянства ў Вільні.

Прыгледзьмася толькі, якую вялізарную ролю адыграў тэатр у адраджэнскім руху гэткага-ж бяздольнага дасюль братняга народу украінскага.

Даўно ўжо, яшчэ ня толькі перад вялікаю сусьветнаю вайною 1914—1918 гг.. а нават перад першаю расейскаю рэвалюцыяю 1905 году быў вядомым сваёю мастацкаю вышынёю украінскі тэатр. Імёны Занькавецкай, Саксаганскага, Садоўскага і Сагайдачнага прагрымелі па ўсёй Расеі. Украінскі тэатр з гэтымі волатамі, як расейцы офіцыяльна называлі, „малороссійской“ сцэны рабіў поўныя зборы нават у Петраградзе. Вядомы рэдактар правае вялікае газэты „Новое Время“ вёў рашучую прапаганду, каб перацягнуць таленты Занькавецкай і таварышоў на... расейскую сцэну, не шкадуючы пахвалаў для нязвычайнасьці украінскіх сцэнічных талентаў. Была нарэшце выдана субсыдыя на выезд украінскае трупы ў Парыж з варункам, што там яна пакажа Эўропе нятолькі украінскае тэатральнае мастацтва, але і расейскае, аб чым бесперастанку стараўся ўспомнены Суворын.

І дзіўная рэч: Занькавецкія, Саксаганскія, Садоўскія і Сайгадачныя правальваліся, выступаючы на сцэне парасейску, яны ня мелі сабе роўных толькі ў выкананьні свайго, роднага, украінскага рэпэртуару. З Парыжа, пасьля поўнага правалу, украінскі тэатр мусіў вяртацца назад, ня робячы эфэкту і ў Расеі, калі пачынаў іграць парасейску.

А колькі было аб'ездных украінскіх провінцыяльных тэатраў? Які горад на Беларусі абмінула ў перадваенныя часы украінская трупа? Хто з старэйшых жыхароў нашых большых гарадоў не памятае украінскіх пастановак „Цыганкі Азы“, „Марусі Багуслаўкі“, „Запарожца за Дунаем“, „Вія“, „Помсты жыдоўкі Рахілі“ або „Хаваншчыны“? Помняць гэтыя пастаноўкі напэўна і старыя віленцы.

Рос украінскі тэатр, рос і яго сцэнічны рэпэртуар, расло разам з гэтым і магутнае адраджэньне нацыі. Мастацтва змушала сябе шанаваць. Яго шанавалі нават і гэткія кіты расейскае велікадзяржаўнасьці, як нябожчык Барыс Суворын.

Ці-ж гэткая сіла украінскага тэатру вырасла адразу? Ведама, што не. Шмат цярністых дарожак было ў разьвіцьці украінскае сцэны. Любоў да роднага тэатру, энтузіязм яго пачынальнікаў, дружнае падтрыманьне свае ўкраінскае публікі на сцэнах Кіева, Адэсы, Палтавы ды Харкава, як і грамады меншых пунктаў, далі тэатру ўсё, што было патрэбна для яго шпаркага росту.

А калі аглянемся крыху назад, на першыя аматарскія пачынаньні нашага беларускага тэатру ў Менску зараз-жа пасьля лютаўскае расейскае рэвалюцыі 1917-га году, калі нарадзіліся неабходныя грамадзкія свабоды, дык таксама пабачым, што „не адразу Вільню збудавалі".

З невялічкага гуртка сцэнічнай беларускай (пераважна вучнёўскай) моладзі, залажыўшай у 1917 годзе „Першае Беларускае Таварыства Драмы і Комэдыі“ пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча і Янкі Беларуса, вырас на Усходзе солідны Дзяржаўны Тэатр у Менску, Аб'ездны Театр Галубка для пастановак беларускіх п'есаў на провінцыі ды 2-гі Беларускі Дзяржаўны Тэатр у Віцебску.

Ф. Ждановіч зьявіўся на беларускую сцэну пасьля сцэны польскае, Янка Беларус прыйшоў з украінскае сцэны. Яны першыя штурханулі прыспаную беларускую тэатральную справу, прыцягнулі да гэтае справы гарачыя сэрцы энтузіястычнае беларускае моладзі і „Таварыства Драмы і Комэдыі“ разраслося ў новае „Таварыства Працаўнікоў Беларускага Мастацтва“, сябры якога ў вялікай меры запоўнілі рады Дзяржаўнага Тэатру.

За кароткі час існаваньня беларускага тэатральнага жыцьця зроблена, як бачым, нямала. Праўда, цяпер на Усходзе павеяў іншы вецер, пачаўся разгром беларускае „нацдэмаўшчыны“, які не абмінуў і тэатру. Ініцыятар беларускае сцэны Ждановіч сасланы аж у Нова-Сыбірск, пассыланыя і яго таварышы па беларускай сцэне.

Ф. Аляхновіч быў цапушчаны да беларускае тэатральнае справы ў Саветах усяго толькі на паўтара месяца ў 1927 годзе, а пасьля кінулі яго на горкае арыштанскае жыцьцё на Салоўках, дзе аднак ён таксама сцэны не пакідаў, але ўжо не свае беларускае, а сцэны наагул.

Дык ці-ж Вільня павінна быць горшаю для Аляхновіча за Салоўкі? Ці тут яго вечная туга па сцэне павінна так і заставацца вечнаю тугою?

Ніколі!

Жывыя маладыя сілы беларускія адгукнецеся на поўны шматгадовае тугі па тэатры заклік нашага старога тэатральнага работніка і пакажэце, што вы тэатр беларускі патрапіце стварыць!

# 3-ці рэфэрат аб Менску.

## III. Народная асьвета.

У пятніцу 19 гэтага кастрычніка грам. Клім расказваў аб народнай асьвеце ў БССР.

Наагул асьвета ў Савецкім Саюзе перажывае гэткія самыя экспэрымэнты, як і іншыя галіны жыцьця.

Спачатку існавалі 3-годкі і 5-годкі (ніжэйшыя школы). Пасьля гэтых школаў, прайшоўшы агульна-адукацыйныя (сярэднія) курсы, вучань мог пастулаць у ВУЗ'ы і ВТУЗ'ы (*высшие учебныя заведения и высшие технические учебныя заведения*). Цяпер бальшавікі імкнуцца пазакладаць 9-годкі (сярэднія школы), з якіх па конкурсовых экзаменах можна пастулаць у ВУЗ'ы і ВТУЗ'ы.

Дзеля таго, што пры паступаньні ў вышэйшыя школы бярэцца пад увагу соцыяльнае паходжаньне будучага студэнта, маладыя людзі стараюцца абходзіць гэты парадак, калі паходжаньне іх бацькоў было непрацоўным. Вучань, пасьля сярэдняе школы ідзе ў які-небудзь калхоз або совхоз і адбывае там работніцкі стаж у працягу якога-небудзь году ці больш, а пасьля ўжо дэлегуецца ў ВУЗ ці ВТУЗ, як сябра таго ці іншага прафэсіянальнага саюзу.

Аднак ён заўсёды можа быць выкрыты сваімі калегамі-студэнтамі ў ВУЗ'е цераз сьцен-газэту і вычышчаны з ВУЗ'у, калі, напрыклад, бацька яго быў духоўнікам, заможнікам, абшарнікам і г. д

Сьцен-газэты — гэта органы даносаў, робленых публічна самы-

**М. ДАЛЬНЫ.**

# Сосны шумяць.

(Гл. № 23 „Р. Кр.“).

Іра Забеліна — вучыцелька. Коля мае знаёмствы. А ў школьнай машыне ці-ж ведаюць, хто Алесь, а хто—Іра?

Праводзілі на цягнік. Махалі шапкамі. Цягнік пайшоў па роўнанацягнутым рэйкам. Сумна неяк зрабілася. Не таму, што Іра паехала на вёску працаваць. Таму, што людзі аддаляюцца—кудысь!

—·—

— Іра дастала працу.

Алесь не глядзіць на маці.

— Вось, сынок, бачыш... так, людзі стараюцца, а Алесь нікудышны, нясьмелы, баязьлівы; ня ходзіць, ня просіць. І ці дастане калі? А сэрца-ж—матчынае—баліць за сына.

— Нічога, мама, дастану, напэўна дастану.

Як гэта, каб ён не дастаў працы. Ён любіць школу і аддасьць усе сілы. Усплывае апошні дзень на курсах, як абразок мінулага, як дырэктар хваліў яго. Не, ён дастане, дастане... у сэрцы-ж—горыч і расчараваньне. Праходзіць час і няма ніякага адказу. А жыць—цяжка. Дзе працу знойдзеш? Людзі з вышэйшай асьветай апошнія месцы занялі—ў бюрах, рэдакцыях, нідзе неўвапхнешся. Там-сям загоніш пару грошаў. Але што з гэтага? І дзе выхад? Чаму не даюць школы? Ён свае здольнасьці аддасьць грамадзянству. Дзе яно гэтае грамадзянства? Чаму яно глухое на яго парывы? Ніхто ня чуе яго збунтаваных думак. А жыць цяжка. Маці шчоткі на вуліцы прадае. Бацька памёр. І чуе Алесь — крыўда, вялікая крыўда робіцца ім. І чуе Алесь, як з кожным днём голас маці надрываецца на рухлівых завулках. Ішоў раз—недзе дзіця кліча маці — здалося. Падыйшоў бліжэй. Пазнаў. Гэта—маці! І роспач яе голасу зашчыміла болем у сэрцы. Прыпыніўся ля дому. Ня мог ісьці далей.

— Мама, мама...

І ўспомнілася яму жыцьцё іх. Яскравым вобразам раскінулася ўся мука і шэрасьць яго. Бежанцы яны. Маці нагружае вагон дровамі. Ён ёй памагае. Цягнік скранаецца. Распачлівы крык ударае ў сэрца. Маці вісіць, зачапіўшыся адным пальцам за клямку таварнага вагону.

Голад. А на вуліцах шмат людзей. Ён малы, нічога не разумее. Маці соткі вёрст едзе за мукой, у сьціску, на дахах вагонаў.

Горла сьціскае крыўда і жаль, балюча, гістэрычна. Доўга ляжыць Алесь, уткнуўшыся ў падушку.

Мама! Мама! Я хачу, каб ты жыла, а дзе тваё жыцьцё? Тваё жыцьцё — гэта вечныя клопаты і думкі, згрызоты і праца...

—·—

Іра сядзіць у садочку. Дом іх за местам. І поўна тут зелені і кветак. Коля вясёлы, самазадаволены. Бацька шануе яго, бо ён памог Іры ўстроіцца. Гэта—жаніх яе. Іра цяпер грошы зарабляе. Вось — прыехала, шчырай рукой сыпнула. Яна ў блюзцы, узор — кветкі з бэзу. І ёй вельмі да твару.

Алесь нясьмела сёрбае гарбату. Прыгнечана—вымушана ўсьміхаецца. Коратка адказывае. Надзвычайна ўсім ветлівы.

Вечарэе. У садзе кусты зьліваюцца ў цёмны паяс, на дрэвы вечар нахінае шэрыя хусткі.

Пасьля гарбаты весела ўсталі. Прайсьціся. Алесь коратка вышаптаў Іры сваю справу. Коратка: ведае яна, без работы ён. Цяжка жыць. Маці панад сілы б'ецца. Не сказаў, як у завулку лавіў раззвоненым сэрцам матчыную любоў у крыку. І ён адзін, адзін чуў у ім моцна нацягнутую роспач. Цяпер—заказ для заграніцы—пушчу сякуць. Ёсьць праца. Трэба паехаць. Няма грошаў

мі студэнтамі адзін на аднаго.

Ня гледзячы на розныя дробныя прывілеі, моладзь апошнім часам ня хоча паступаць у вышэйшыя школы, бо кожны студэнт за канікулярны час павінен завербаваць яшчэ двух маладых людзей у тую вышэйшую школу, у якой ён вучыцца.

Студэнты прымаюцца па кантракце,якім абавязваюцца служыць пасьля скончаньня вышэйшае асьветы ў Беларусі і наагул выпаўняць усе загады.

Навука ўва ўсіх савецкіх школах *бясплатная*, ні за навуку, ні за падручнікі і розныя навуковыя прылады плаціць ня прыходзіцца.

Кошты навукі пакрываюцца з *падатку* свайго роду на гэтую мэту, які завецца зборам на культурнае будаўніцтва, сьцягваным з усяго жыхарства.

У школах існуюць камітэты вучняў і камітэты бацькоў усюды.

Студэнт атрымлівае стыпэндыю 60—100 руб. у месяц, на якія ён і павінен жыць. Абеды ў студэнцкіх сталоўках каштуюць ад 45-50 кап. да 1 рубля.

Ёсьць пры выш. школах інтэрнаты, дзе жывуць разам як студэнты, так і студэнткі. Гэткі парадак вядзе часта да вельмі неморальных рэзультатаў. Калі ад сужыцьця пары маладых людзей здараецца патомства, дык маці нованароджанага лёгка можа высудзіць (цераз мэдыцынскую нават экспэртызу айцоўства) належныя на дзіця алімэнты, але маладыя хлопцы ўхіляюцца ад гэтага тым, што мяняюць прозьвішчы (гэта ў саветах вельмі лёгка) і ўцякаюць у іншую мясцовасьць, дзе іх вельмі і вельмі трудна знайсьці.

Раней адміністравалі ў школах загадчыкі, а цяпер заўважваецца поўны паварот да старых назоваў: школамі кіруюць рэктары, дырэктары, ёсьць у іх інспэктары, як і даўней. Начальнік гэткі — сам адзінаасабова рашае справы адміністраваньня школаю.

Пераважаюць сярод студэнтаў беларусы. Усіх студэнтаў у Менску больш як 3.000.

Расейскіх сярэдніх школ у Менску ёсьць толькі 4. Апрача беларускага, ёсьць жыдоўскі і польскі пэдагогічныя інстытуты (пэдтэхнікумы).

Факультэты ў унівэрсытэце завуцца інстытутамі. Ніякіх экзаменаў пры скончаньні курсу ўсіх школаў раней ня было, а вучню або студэнту проста выдавалася пасьведчаньне, што ён праслухаў курс тае ці іншае школы. Цяпер і ў гэтым сэнсе вярнуліся да старога парадку: канчаючы школу, вучань ці студэнт павінен здаваць экзамен.

Школьная сетка наагул даволі густая, аднак не разьвінута яшчэ да поўнае меры, як гэта відаць з заяваў афіцыяльных прадстаўнікоў савецкае асьветы ў БССР. У кожным мястэчку ці большым сяле ўлады стараюцца залажыць сярэднія школы 9-годкі.

Для камуністаў, ударнікаў і чырвоных партызанаў існуе РАБФАК (работніцкі факультэт), які зьяўляецца сярэдняю школаю. З Рабфаку яны ідуць у КАМВУЗ (камуністычны унівэрсытэт), праходзячы там палітграмату ў пашыраным разьмеры,

Ня гледзячы на тое, што ўжо даўно, яшчэ ў часе кіраваньня асьветнымі справамі народным камісарам Баліцкім (сасланым на Салоўкі), ўлады хваліліся поўным выкараненьнем няпісьменнасьці, ёсьць яшчэ шмат анальфабэтаў у веку 45 і болей гадоў.

Палажэньне пэдагогаў ува ўсіх школах вельмі цяжкае; пэнсіі ня выплачваюцца ім па паўгода.

Прафэсіянальная, тэхнічная асьвета пераважае ў саветах.

Газэты цяпер дарма не раскідаюцца бальшавікамі. Гэткая „Зьвязда“, напрыклад, выходзіць у ліку 30-40 тысяч экзэмпляраў і яе трэба набываць за грошы. Праўда, што падпіска на яе выглядае на прымусовую. Расейская газэта „Рабочий“ мае тыраж у 50 тысяч экзэмпляраў.

У школы ўводзіцца выкладаньне гісторыі і геаграфіі. Раней гэтыя прадметы зусім не выкладаліся.

*С.*

# Гаспадарчы аддзел.

## Заквашваньне корму.

Здабываньне корму для жывёлы ёсьць найбольш балючым пытаньнем нашае вёскі. Без патрэбнай колькасьці корму ня можа быць добрай гадоўлі жывёлы. А бяз жывёлы, — як кажа наш сялянін, — гаспадарка нічога ня варта. Вось-жа, ва што-б то ні стала, трэба пастарацца, каб корму для жывёлы было дастатачна і каб корм быў добрае якасьці. Якім-жа спосабам гэта можна дасягнуць? На гэтае запытаньне можа быць толькі наступны адказ: папершае, трэба палепшыць свае сенажаці, а падругое,—адвясьці большыя плошчы ральлі пад кармавыя расьліны.

Апрача ўсяго толькі што сказанага, трэба пастарацца, каб нічога ў нас не марнавалася дарма і каб увесь той расьлінны матэрыял, які мы маем, быў як найлепей выкарыстаны. Дужа часта ў нас здараецца, што скошаная атава гіне на пракосах, дзякуючы таму, што няма адпаведнае пагоды яе высушыць. Лісьцё буракоў, морквы, капусты ня рэдка згнівае ў кучах, калі не пасьпееш яго скарміць. Кармавая мяшанка таксама можа загінуць на полі, калі мы не патрапім яе зужыткаваць да марозаў і г. д. Тым часам, усе гэтыя матэрыялы могуць быць пераховадны на зіму і ўжыты, як добры корм для кароў, калі іх заквасіць у ямах або спэцыяльных будовах т. зв. сіласах. У тых краінах, у каторых сіласаваньне корму шырака практыкуецца, заквашваюць нятолькі той корм, які нельга высушыць, але для гэтае мэты засяваюць нават спэцыяльныя расьліны, як кукурузу, конскі зуб, слоняшнік і інш. У паступовых гаспадарках нічога не марнуецца дарма. Нават з лубіну і ліхазельля, абы яно ня было атрутнае, прыгатаўляюць добры заквашаны корм.

У дробных гаспадарках заквашваньне сьвежага корму праводзіцца вельмі проста. Выбіраецца сушэйшае месца на глебе глiністай і капаецца яма да $1^1/_2$—2 мэтраў глыбінёю; шырыня і даўжыня ямы можа быць давольная. На дно і бакі ямы даецца нягрубы слой мякіны; пасьля чаго ў яму складаецца прыгатаваны корм. Корм, які мы хочам заквасіць, павінен мець адпаведную колькасьць вільгаці. Калі корм залішне сухі, то яго трэба змачыць вадою і наадварот. Залішне вадзяністы корм трэба зьмяшаць з сечкаю або мякінаю. Найболей адпаведную вільготнасьць для заквашваньня будзе мець тая трава, з якое пры сільным скручэвьні ў руках выступае сок, але не капае. Расьліны мягкія, як трава, бурачнае лісьцё і т. п. можна заквашваць такімі, якімі яны ёсьць. Аднак расьліны, якія маюць цьвёрдыя сьцеблы, трэба абавязкава парэзаць на грубую сечку. Накладаць корм у ямы трэба пластамі і кожны пласт як найшчыльней утаптаць, асабліва, па куткох ямы. Калі трава ня будзе добра ўтоптана, то і ня будзе правільнага кваншаньня і атрымаецца корм ліхі, або зусім сапсуты. Апрача таго, трэба старацца, каб яма была запоўнена адным захадам. Яму трэба натоптываць няроўна з паверхняю зямлі, а на 1 мэтр вышэй, бо інача корм ня будзе добра злегацца. Калі ўсё гэта зроблена, тады корм зьверху яшчэ пакрываецца тонкім пластам мокрае мякіны або сечкі і абсыпаецца зьверху зямлёю. Пласт зямлі над кормам павінен быць ня менш, як $^1/_2$ мэтра грубінёю.

У першыя дні, пасьля налажэньня, корм хутка зьлягаецца і прыкрываючы яго пласт зямлі можа патрэскацца. Як толькі зьяўляюцца трэшчыны, трэба іх зараз-жа засыпаць зямлёю або замазаць глінаю, у праціўным разе да корму будзе даходзіць паветра і той пачне плясьнець і гніць. Добра паложаны корм можа закіснуць у працягу 4-6 тыдняў, пасьля чаго можа быць ужываны на корм праз цэлую зіму.

Дзе глебы пяшчаныя, або дзе пад паверхняю блізка знаходзіцца грунтовая вада, там заквашваюць корм складаньнем у сьцірты вышынёю 2 — $2^1/_2$ мэтра і 4-5 мэтраў шырынёю. Да таго, пры пяшчанай глебе, трэба на тое месца, дзе мае складацца корм, навязьці гліны і зрабіць ток. Складаны корм таксама трэба добра ўтоптываць. Зложаная сьцірта прыкрываецца зьверху і з бакоў саломай а паверх яе прыкрываецца грубым пластам зямлі.

*З. К.*

# З царкоўнага жыцьця.

*Украінізацыя Валынскае Кансысторыі.* З назначэньнем у Валынскую Эпархію архіеп. Аляксея, Валынская Духоўная Кансысторыя пачала хутка ўкраінізавацца. Перш за ўсё былі стуль звольнены ўсе расейцы, а на іх месца прызначаны ўкраінцы. З гэтага-ж часу запанавала там і ўкраінская мова. Усё дзелаводзтва пачало весьціся на ўкраінскай мове і ёю-ж пачалі карыстацца ў зносінах з інтэрэсантамі. Загадам № 20.593 ад 23 кастрычніка г. г. духавенства Валынскае Эпархіі ў зносінах з сваімі Ўладамі мусіць карыстацца таксама толькі мовай украінскай, у той час, як дагэтуль карысталася—расейскай. Ясна, што на ўкраінскай Валыні гавораць паукраінску; ў гэтым нічога дзіўнага няма, бо гэта рэч зусім натуральная. Разгневаныя расейцы гэтым аднак вельмі абураюцца, неміласэрна лаючы праваслаўных епіскапаў і украінскае грамадзянства.

# Беларуская хроніка.

— У нядзелю 28 кастрычніка г. г. адбыўся надзвычайны сход сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. На парадку дня знаходзілася справа зацьверджаньня Сходам пастановы Ураду аб завешаньні ў дзейнасьці некаторых сяброў Ураду і ў сувязі з гэтым—дапаўняючыя выбары новых. Асабліва доўга разглядалася справа завешанага сябры Ураду студ. П. Радзюка, б. рэдактара „Асвы“. Новавыбраны Урад Саюзу складаецца з наступных асоб: М. Шчорс — старшыня, студэнты Трафімучанка, Войтэнка, Грамыка і Смаль – сябры Ураду. На тым-жа сходзе пастаноўлена правесьці зьмену формы саюзных шапак, а таксама адсьвяткаваць сёлетнія ўгодкі сьмерці беларускае паэткі Цёткі.

Працы сходу адбываліся ў атмосфэры вельмі непаважнай, аб чым сьведчыць можа хоць-бы і наступны факт. Нешта цэлую гадзіну дыскутавалася справа паніжэньня сяброўскіх складак, якую ўрэшце было пастаноўлена зьменшыць. Пасьля розных галасаваньняў аказалася, што да зьменшаньня складка выносіла 3 зл. у год, а пась-

---

на дарогу.

Іра паважна слухае. Але ў ледзь ухопнай зьмене твару Алесь пачуў халодна й балюча: не. І ня дзівіўся, калі сказала, як-бы раней ведаў. Разьвітаўся як пастарому. Але ў сэрцы новы накіп. Ці на Іру?

На вуліцах рассыпаліся пацеркамі электрычныя вагні і неяк асабліва дражнілі Алеся.

—·—

Высакаствольныя, роўныя, старыя сосны. А на іх—пазалоць сонца. І сьвежасьць лесу. Уздымаюцца сотні рук. Векавая цішыня гушчару тысячай рэх дразьніцца з нарушыцелямі яе адвечнага спакою.

— Бу-уух!—пакацілася рэха, рассыпалася, задрыжэла, замёрла.

Падымаюцца рукі, апускаюцца, пружацца, упіраюцца. Шыбчэе сэрца, пілы, сякеры, вазы,—і сярод іх Алесь, новы, загартаваны, упарты.

Вось гэтая грамада людзей, якая ня знае кніжных думак, з загрубелай, цьвёрдай скурай,—такая брацкая, людзкая. Не такая, як Іра Забеліна.

—·—

Высакабежныя, стромыя сосны. Сонца раскідала залацістую радасьць. І ў Іры гэтая радасьць пеніць, быстрыць кроў. Учора вечарам прыехаў Коля. А вечары цяпер такія незразумелыя, месячныя. І цягне блакітная далеч вясковых дарог валандацца... далеча... далеча... Дзеці па лесе разыйшліся. Коля моцны. І салодкія яго пяшчоты... О!.. нязьведанае... таёмнае...

Ціха шумяць сосны.

—·—

— Вы—звольнены й зараз-жа адпраўляйцеся дамоў. Падзякуйце, што я так, без паліцыі. Бо я—добрае сэрца маю.. А такіх як вы—ужо шмат я бачыў. Нам бунтароў ня трэба. Вось ваша плата і марш...

Што яму казаць, ці яго пераканаеш? А сэрца расьпірае радасьць, радасьць праўды і моладасьці, змаганьня і веры.

Алесь згарнуў грошы ў руку й паволі выйшаў з лясьніцтва.

—·—

Імчыць цягнік. Там, пад падлогай—жалеза і сталь шалёна хапаюцца, б'юцца, ціснуць. Як трэскі, вырываецца шум з-пад калёсаў, глохне, то ізноў вырываецца на волю. На новыя лініі пераходзіць цягнік і ў галаве кружыцца, а сэрца мацнее. І здаецца Алесю, што і ён пераходзіць на новыя дарогі і гэтыя пераходы цягніка асабліва ўспалымняюць нейкія таёмныя і радасныя надзеі.

Імчыць цягнік. Сонца бяжыць па дратох тэлеграфных, як хустка чырвоная, калышацца ў чыстаце крыштальнай балотцаў, што за цягнікам сунуцца палатнінай шчарнелай. Доўга стаяць нярухомыя людзі, ад працы адарвуцца, глядзяць на госьця, што па чорных рэйках—сумна гудучых струнах—грукаціць. Доўга махаюць рукамі ў вокны.

Рашчасалі працавітыя рукі поле прыгожанька, як галоўку дзіцяці, у палосачкі роўныя, на сьвята—калі зашумяць пад сярпамі жыты напеўныя.

Бярозкі бясконцыя—абрус зялёны. Бягуць стваліны соснаў, пазалочаныя сонцам, як хлопцы з поля, — так вось, падбегчы за імі, — ад радасьці; падбягуць, супыняцца.

Пастушок у полі, як вербачка, да зямлі прырос—заглядзеўся.

На станцыях сьвіткі. Вясковая Беларусь лапцюжная... Вочы спатыкаюцца з вачыма. Ізноў імчыць цягнік. Лясы. палі, балоты... у шыбіне бачыць Алесь, як у вагонеківаюцца людзі, і між галоў—на фоне поля — схудалы твар маці. Ён моцна яе цалуе, туліць, бедную, дарагую і, перамагаючы сьлёзы, дрыжачым голас кажа:

— Мама! Мама... Мы здабудзем шчасьце—у барацьбе.

1934.

Канец.

# З выдавецкае нівы.

I.

*„Пралескі“*. Вільня, лістапад 1934 г. Месячная часопісь для беларускіх дзетак. № 1.

Пад рэдакцыяй Людвікі Войцік кс. Ст. Глякоўскі пачаў выдаваць вышэйназваны месячнік.

Увесь першы нумар часопісі, апрача аднаго вершыка Алеся Мілюця „Беларусам я радзіўся“, надрукованы лацінікай, мусі таму, што беларускія дзеці, ня маючы сваіх родных школаў, знаёмяцца з лацінскімі літарамі ў тых, да якіх яны ходзяць вучыцца, польскіх школах, а з гражданкаю, праз нядбаласьць сваіх бацькоў, вельмі часта зусім не знаёмяцца.

У часопісі восем бачынак малога фармату. Матар'ял, зьмешчаны ў першым нумары, вельмі цікавы для малых чытачоў.

„Казку аб рыбаку і рыбцы“, пачатак якое (два разьдзелы) зьмешчаны ў № 1-м „Пралесак“, трэба прывітаць, як першы твор Пушкіна, перакладзены пабеларуску. Беларускі перакладчык ня трымаецца пушкінскага разьмеру, як і яго *белага* вершу. У беларускім выглядзе „Казка“ выйшла рыфмованаю. Вось яе пачатак:

„Жыў стары-стары дзядуля
З ім крывенькая бабуля:
Жылі разам, гэтым знакам,
Гадоў трыццаць тры, і з гакам...“

Дзеля таго, што падобная часопісь служыць мае ў нашых варунках падручнікам роднае мовы для малых шкаляроў, варта было-б стражэй крыху аднясьціся да вытрыманасьці нашае граматыкі, ігнаруючы провінцыяльныя канчаткі скланеньня іменьнікаў. А то ў загалоўку маем правільную форму — „Казка аб рыбаку і *рыбцы*“, а далей у тэксьце, той самы месны склон аналёгічнага іменьніка выглядае іначай: „Каб у *сетца*, ці на волі“...

Калі *рыбка* ці напр. *ручка, бочка, рэчка* і г. д. у месным склоне адзіночнага ліку канчаецца на *„цы“*, дык і *сетка*, як аналёгічны іменьнік, павінна мець у месным склоне „у *сетцы*“, а ня ў *сетца*, як надрукована ў „Пралесках“.

Патрэба ў дзіцячай лектуры адчуваецца ў нас даўно і дзеля гэтага ініцыятыву выдавецтва „Пралесак“ вітаем і жадаем ім шчасьлівай будучыні і разьвіцьця на карысьць наймалодшых беларусаў. *К. М.*

II.

*Беларуска - Славянскі Лемантар (буквар) і першая навука Закону Божага.* Падаруначак добрым дзеткам. Варшава. Друкарня Сынодальная. 1933. Выпадкова трапіў да нас гэты падручнік рэлігіі і граматы невядомага аўтара. Кніжка мае 122 бачыны даволі вялікага фармату з гэткімі разьдзеламі зьместу: Да дзяцей, Навучаньне малітваў, Штодзенныя малітвы, Стары Завет, Новы Завет, Праваслаўная вера, З Царкоўнай Гісторыі.

Нямала поту, відаць, каштаваў невядомаму аўтару гэты падручнік, а выйшаў вельмі скорастрэльным з дзівачным часамі лексыконам ды зусім слабою карэктураю. Аналёгічныя словы выглядаюць у падручніку парознаму: *Константін*, *Константинапольскі*, а ў другім выпадку — *Констaнтінапольскі*. Імёны сьвятых таксама надрукованы па рознаму: *Серехвім*, а ў другім месцы *Серахвім*. Народ наш вымаўляе падобнае жаноцкае імя — *Сарафіна*, дык хіба і мужчынскае павінна было-б быць: *Сарафін*. Хоць, што ў нас, беларусаў, ёсьць супольнае з „Серафімом Саровскім“, аб якім пішацца ў падручніку?

А што пабеларуску мае значыць слова *„каята“*, дык хіба толькі манахі вучоныя разьбяруць. Беларускае „зусім“ выглядае ў падручніку, як „саўсем“, расейскае „получил“, як „палучыў“, замест „разьвітаўся“ — маем „пажагнаўся“, *заўсягда* — замест „заўсёды“, ды ўсіх дзівосаў няўдала выпушчанага падручніка немагчыма і пералічыць. Паводле падручніка сабака ня „вурчыць“, а „рычыць“, бо чытаем тут на бачынцы 4-ай гукавое тлумачэньне літараў р—р—р „як *рычэньне* (?) сабакі“. Пра Бога кажацца на бач. 12-ай, што: „Ён усе утрымлівае ўладай Сваей і ўсім сьветам *радзіць*“ — (падкрэсьлена намі). Або зноў нарасьцю нейкай выглядае гэткі чыста расейскі сказ: „Многія з верных Яго бачылі і радаваліс яго ўскрасеньню“. Беларус радуецца (цешыцца) з чаго-небудзь, а не чаму-небудзь. Малітву беларус *гаворыць*, або чытае (па кніжцы), а не *змаўляе*, як напісана ў Лемантары. Полёнізм *жадны* тлумачыць можна пабеларуску, як *ніякі* ці, часам, *ніводзін*, але ні ў якім выпадку нельга было-б яго спадзявацца жыўцом бачыць у... праваслаўным падручніку. Пра гэткія маскалізмы, як, *састаіць*, *заботы*, *паюць*, *празьнік*, *вялеў*, *зайцы*, — злоўленыя вокам, рэдка перавяртаючы карты падручніка, няма чаго сказаць.

На адваротным баку загалоўнае карткі кніжкі літаральна надрукована: „З багаслаўленьня ЯГО БЛАЖЭНСТВА, Блажэньнейшага ДЗІАНІСІЯ, Мітрапаліта Варшаўскага і Валыньскага і ўсяе Польшчы“.

Вашае Блажэнства! Шчыра дзякуем за багаслаўленьне беларускае кніжкі, але, багаслаўляючы, не адмоўце распарадзіцца, каб з друкарні, як і з-пад пяра аўтара яна выходзіла запраўды беларускаю. Пара зразумець, што ёсьць беларуская грамата, ёсьць граматныя беларусы, павінны быць і граматныя беларускія духоўныя айцы, а тым больш аўтары духоўных падручнікаў! *Міранін.*

---

ля зьменшаньня... тыя-ж самыя 3 зл. у год. Агледзіліся, пад свой уласны сьмех, ужо па часе.

Зацікаўленьне сходам малое, аб чым сьведчыла лічба прысутных сяброў.

— 4 лістапада г. г Таварыства Беларусаведы зладзіла першую ў бягучым акадэміцкім годзе навуковую зборку, на якой абс. Я. Хворaст прачытаў рэфэрат на тэму: „Вясельныя абрады на Палесьсі“.

— Апошнімі часамі пачала выходзіць у Вільні яшчэ адна беларуская часопісь: „Беларуская Борць“ — месячнік пчалярства і мядова-лекарскіх зёлак (Рэдакцыя — Wilno, ul Królewska 3—8).

— Падобна мінулым гадом і сёлета ў дзень задушак беларускае грамадзянства адведала праваслаўныя і каталіцкія могілкі на Росах, дзе знаходзяцца магілы беларускіх паэтаў К. Сваяка і Ядвігіна Ш. Над магілай кожнага з іх пяяліся беларускія рэлігійныя песьні і жалобны марш „Растаўся з намі“. На магілу Ядвігіна Ш. вучні Віленскай Беларускай Гімназіі зложылі вянок, прыбраны стужкамі нацыянальных колераў.

— *Выстаўка вучнёўскай прэсы Віл. Беларускай Гімназіі.* Ад 1-га да 4-га лістапада, падчас сьвятаў, трывала ўсалі Віленскай Беларускай Гімназіі выстаўка прэсы, зарганізаваная Прэсавай Сэкцыяй Літэратурна-Гістарычнага Гуртка. У прыгожа ўдэкараванай салі былі разложаны на століках часопісі, на сьценах былі вывешаны сьценныя газэты. Выстаўка, якая абняла ўсе вучнёўскія часопісі, паказала, як шмат зроблена нашай вучнёўскай моладзьдзю. „Маладое Жыцьцё“ і „Вучнёўскі Звон“ выдаваліся нават друкам. На століках — „Усход“, „Зорка“, „Рунь“, „Пралескі“, „Наперад“, „Золак“, „Васілёк“, „Рэха“ і інш. часопісі і аднадвёўкі. На сьценах разьвешана сьценная газэта IV-ае клясы і агульна-школьная часопісь „Покліч“, запачаткаваная ў прошлым школьным годзе. У 1933/34 шк. годзе „Поклічу“ выйшла 10 нумароў, у 1934/35 выйшла ўжо 7. „Покліч“ цапер выходзіць што тыдзень. Кідаецца ў вочы поступ у выданьнях „Поклічу“. У гэтым годзе ўведзены ілюстрацыі ў газэце і газэта выдаецца плянова. Як даведываемся, у хуткім часе будзе побач з „Поклічам“ выдавацца друкаваная месячная часопісь.

У часе выстаўкі Прэсавая Сэкцыя наладзіла рэфэрат, які прачытаў вучань VIII кл. Б. Семеняка на тэму: „Як выдаецца кніга“? Пасьля рэфэрату вучні зьведалі друкарню „Кур'ера Віленскага“, дзе запазналіся з машынамі, друкарскімі прыладамі і самым прабегам друкаваньня. Выстаўку зьведала каля 300 асоб. Трэба падкрэсьліць, малую зацікаўленасьць выстаўкай старэйшага нашага грамадзянства, што выразна адчула моладзь. А аб выстаўцы-ж было абвешчана ў беларускай прэсе. Найбольш зацікаўленьня выявіла нашае студэнцтва. У часе выстаўкі была а 4-ай гадзіне музыкальная хвіліна. Выстаўка была добра зарганізавана і ў зьведваючых пакінула добрае ўражаньне. Найбольш, карысьці прынясла яна самой вучнёўскай моладзі, якая шмат чаму навучылася. *Прэс.*

# З краю.

— *Буджэтовая сэсыя сойму.* У аўторак 6 лістапада распачалося першае ў буджэтовай сэсыі пленарнае паседжаньне сойму. На паседжаньні гэтым адбылося першае чытаньне праэкту новага фінансавага закона і буджэтавага прэлімінара на 1935—36 год.

Пасьля першага чытаньня выступіў з вялікай прамовай міністар фінансаў Завадзкі.

Прамова міністра Завадзкага носіць характар вельмі оптымістычны. Прамоўца зазначыў, што ўжо з 1930 г. у дзяржаўных фінансах заўважваецца пэўная, хоць мала значная, стабілізацыя, што дае магчымасьць думаць аб паступовым палепшаньні у будучыні. Наступна міністар заявіў, што зьменшаньне дзяржаўных расходаў будзе праводзіцца і ў будучыні, што можа значна палепшыць буджэтовую раўнавагу. Буджэтовы прэлімінар у позыцыі даходаў выказвае 1.982.743.700 зл. і) позыцыі расходаў—1.132.861.600 злот.

Недахоп можа зьменшыцца ў выпадку значнага гаспадарчага палешаньня. У заканчэньні міністар зазначыў, што труднасьці ў галоўных галінах гаспадарчага жыцьця ўжо пераможаны і выказаў надзею, што праца ўраду і ў далейшым спаткае падтрыманьне ў здаровай і дзяржаўна-творчай частцы грамадзянства.

— *50.000 злот. расейскім эмігрантам.* Міністэрства Соцыяльнай Апекі асыгнавала на 1935—36 г. 50.000 зл. як субсыды расейскім эміграцкім арганізацыям.

Цікава адзначыць, што беларускія арганізацыі і інстуцыі такіх прывілеяў ня маюць.

— *Мэліорацыя Палесься.* У працягу зімовай сэсыі сойму будзе разгледжаны праэкт асушэньня Палесься.

Весткі гэтыя выклікалі вялікае зацікаўленьне сярод мясцовага насельніцтва.

# Пісьмо ў рэдакцыю.

*Паважаны П. Рэдактар!*

Дазвольце мне праз Вашу часопісь зьвярнуцца да „беларускага грамадзянства ў Вільні.

Хочучы заняцца арганізацыяй беларускага тэатру, зьвяртаюся да ўсіх тых, хто хацеў-бы дапамагчы мне ў гэтай справе, каб увайшлі ў кантакт са мной.

Думаю, што мой кліч не застанецца голасам на пустыні, і тыя, хто хоча рабіць культурную беларускую работу, дапамогуць мне ў маіх пачынаньнях.

Папяраджаю, што наша праца будзе вымагаць вялікай дозы добрай волі і ахвярнасьці, бо, апрача моральнага здаваленьня, ні на якія матэрыяльныя карысьці нам разьлічаць ня прыдзецца.

Я больш як пераконаны, што нашы беларускія „нуворышы“ не прыдуць нам на падмогу, а нават вельмі здаволены, што гэтак будзе.

Усё самі, ўсё зробім самі, ажыўлены адзінай думкай — стварэньнем беларускага тэатру ў Вільні.

Уся сіла наша будзе ў дружнай нашай грамадзе, узмацаванай гэтай ідэяй.

22 чэрвеня ў „Родн. Краі“ быў надрукаваны артыкул „Зрабема высілак“, якога аўтор у вельмі оптымістычных словах заклікае да стварэньня сталага тэатру ў Вільні. Пры здарэньні хачу аўтора запытацца, дзе ёсьць гэтыя „артыстычныя сілы“, аб якіх ён піша, дзе ён бачыў гэты „багаты беларускі рэпэртуар“, які яго гэтак здавальняе, дзе ён знайшоў гэту салю, якую „можна здабыць можа нават бясплатна“.

Ягоны адказ быў-бы вельмі цэннай для нас інфармацыяй.

Гледзячы на справу больш цьвяроза, я згаджаюся з ім толькі ў адным, што: цяпер, у часы духоваго расьцярушаньня сярод беларускае інтэлігенцыі, тэатр быў-бы бязумоўна важным культурным лучнікам.

У часы хваравітага палітыканства, якое атручвае наша грамадзянства, цяпер, калі мы адна за адной страцілі нашы культурныя пляцоўкі, пастараймося стварыць і захаваць новую, найбольш прапагандную, самую аполітычную і адначасна найбольш эфэктвую нацыянальна — беларускі тэатр.

Памятайма, якую вялізную ролю тэатр адыграў у адраджэньні ўкраінцаў!

Каго справа нашага тэатру цікавіць-чакаю. Мой адрэс: Віленская 10, кв. 26 Ад 4 да 6

Прымеце, П. Рэдактар, словы глыбокай пашаны.

*Фр. Аляхновіч.*

Вільня, 4 лістапада 1934.

# Заграніцай.

✕ Паводле новага распараджэньня вучыцелі і вучыцелькі ў **Італіі** змушаны будуць падчас лекцыяў насіць мундуры: мушчыны мундуры афіцэраў або міліцыі, вучыцелькі—кіраўнічак арганізацыі Баліла (фашыстоўская арганізацыя дзяцей).

✕ Кітайскае дзяржаўнае войска, якое білася з камуністамі на пагранічны правінцый Фукен і Кіянгсі, здолела ізноў наладзіць нармальную чугункавую камунікацыю між Фукен і Шэнтсінг. Камуністы ў перапалоху пакінулі горад Фукен. Дзяржаўнае войска захапіла шмат камуністаў у палон і вялікія запасы аружжа і амуніцыі.

✕ Як падае Лёндонская прэса, выбары ў **Злучаных Штатах Паўн. Амэрыкі** ў палату прадстаўнікоў і сэнат скончыліся перамогай партыі дэмократаў, якая атрымала ў некаторых штатах 70, а нават 90 процантаў усіх галасоў. Паводле пачатковых аблічэньняў, на 186 дэмократаў выбрана 45 рэспубліканцаў.

Таксама перамаглі дэмократы пры выбарах губэрнатараў штатаў.

Уптон Сінклер, ведамы пісьменьнік — кандыдат скрайна-левых элемэнтаў — пацярпеў няўдачу.



**Прачытаўшы газэту — перадай другому.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.